*Казлякоў* У. Я Барацьба палітычных партый У Беларусі (люты — кастрычнік 1917 г.)/ У.Я. Казлякоў // Российские и славянские исследования : науч. сб. Вып. 7 / редкол. : А. П. Сальков, О. А. Яновский (отв. редакторы) [и др.]. — Минск : БГУ, 2012. С. 41-46.

**У. Я. Казлякоў**

# БАРАЦЬБА ПАЛІТЫЧНЫХ ПАРТЫЙ У БЕЛАРУСІ ЗА ВЫБАР ШЛЯХОЎ ДА ГРАМАДСКАГА ПРАГРЭСУ (люты — кастрычнік 1917 г.)

Падзеі, што адбыліся напярэдадні і ў перыяд Кастрычніцкай рэвалюцыі, знаходзяць у той ці іншай ступені адлюстраванне ў падручніках і дапаможніках па гісторыі Беларусі. Аднак калі раней пераважалі меркаванні наконт фатальнай непазбежнасці сацыялістычнай рэвалюцыі пры безумоўнай кіруючай ролі рабочага класа, то зараз адзначыўся крэн у іншы бок — быццам ніякіх падстаў для рэвалюцыі на Беларусі ўвогуле не было, а «бальшавікі абапіраліся тут амаль выключна на расійскае войска» [12, с. 185].

На жаль, аб'ектыўнаму і глыбокаму вывучэнню складаных падзей 1917 г. не садзейнічае «Тыповая вучэбная праграма па гісторыі Беларусі для вышэйшых навучальных устаноў» (зацверджана Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь 15 красавіка 2008 г.). Выкладанне матэрыялу па сітуацыі ў Беларусі пасля Лютаўскай рэвалюцыі і расстаноўцы палітычных сіл восенню 1917 г. чамусьці разрываецца на два раздзелы: першыя сюжэты разглядаюцца ў раздзеле «Цывілізаваная спадчына Новага часу і Беларусь», другія — у раздзеле «Савецкая мадэль мадэрнізацыі ў гісторыі Беларусі». Такім чынам, «дэмакратычны» Люты (нявольна ці свядома) супрацьпастаўляецца «таталітарнаму» Кастрычніку 1917 г., што было ўласціва для эмігранцкай і заходняй гістарыяграфій, выпадаюць сюжэты міжпартыйнай барацьбы ў Беларусі з вясны да восені 1917 г., эвалюцыя тактыкі мясцовых палітычных груповак.

На наш погляд, мэтазгодна ў курсе «Гісторыя Беларусі» для вышэйшых навучальных устаноў разглядаць самастойную тэму «Барацьба палітычных партый у Беларусі за выбар шляхоў да грамадскага прагрэсу (люты—кастрычнік 1917 г.)». Мэта тэмы: праз дынаміку палітычнай барацьбы паказаць заканамерны характар Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Беларусі. Можна сфармуляваць і адпаведныя задачы праз наступныя пытанні плана: 1) Лютаўская рэвалюцыя ў Беларусі і фарміраванне мясцовых улад. 2) Пазіцыі агульнарасійскіх партый па асноўных пытаннях рэвалюцыі. 3) Ажыўленне дзейнасці беларускіх партый і арганізацый і стварэнне новых. 4) Міжпартыйныя адносіны ва ўмовах двоеўладдзя (сакавік — чэрвень 1917 г.). 5) Абвастрэнне сацыяльна-эканамічнага і палітычнага крызісу ў Расіі і Беларусі. Далейшае размежаванне ўнутры праўрадавых расійскіх і беларускіх партый (ліпень — кастрычнік 1917 г.).

Паспрабуем пазначыць асноўныя палажэнні ў накірунку рашэння пастаўленых задач.

1. Распачаць выкладанне тэмы трэба з характарыстыкі Лютаўскай рэвалюцыі, раскрыць яе прычыны і растлумачыць студэнтам асаблівасці ўлады, якая ўзнікла: наяўнасць Петраградскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў і Часовага ўрада. Эсэры і меньшавікі, якія тады пераважалі ў Савеце, лічылі, што паколькі «рэвалюцыйная дэмакратыя» не падрыхтавана да кіравання краінай, то ўлада павінна належыць так званым «цэнзавым элементам», г. з. буржуазна-ліберальным дзеячам. Была прынята ўзгодненая Праграма Часовага ўрада і Петраградскага Савета, якая змяшчала шэраг палажэнняў па дэмакратызацыі краіны.

Сярод працоўных Беларусі звесткі пра звяржэнне самадзяржаўя выклікалі энтузіязм. У гарадах і мястэчках Беларусі ствараліся Саветы рабочых і салдацкіх дэпутатаў, народная міліцыя. На працягу сакавіка — красавіка 1917 г. арганізацыйна аформіліся 37 Саветаў, у тым ліку 11 рабочых, 11 салдацкіх, 14 аб'яднаных Саветаў і Савет сялянскіх дэпутатаў. Свае зада-

**Козляков Владимир Егорович** — профессор кафедры истории Беларуси и политологии Белорусского государственного технологического университета, доктор исторических наук

чы Саветы бачылі ў арганізацыі рабочых і салдацкіх мас, абароне іх сацыяльна-эканамічных інтарэсаў і палітычных правоў, разгортванні сярод працоўных палітычнай асветніцкай дзейнасці. Саветы Беларусі прызнавалі кіруючую ролю Петраградскага Савета і Часовы ўрад, яго органы на месцах, але пры ўмовах адпаведнасці дзейнасці апошніх «інтарэсам народа». Часовы ўрад разлічваў на падтрымку з боку Саветаў, але стаў ствараць свае органы на месцах, а 6 сакавіка 1917 г. перадаў уладу ў губернях і паветах сваім камісарам, якія прызначаліся, як правіла, з ліку старшыняў губернскіх і павятовых земскіх упраў. Да губернскіх камісараў пераходзілі функцыі губернатараў. Працягвалі сваю дзейнасць гарадскія думы. Камісарам падпарадкоўвалася міліцыя, ім жа даручаўся нагляд за дзейнасцю ўсіх устаноў і чыноўнікаў.

Такім чынам, у Беларусі, як і па ўсёй краіне, пасля Лютаўскай рэвалюцыі стварылася так званае «двоеўладдзе» — своеасаблівая рэальная палітычная з'ява. У апошні час назіраюцца спробы даказаць, што пасля перамогі Лютаўскай рэвалюцыі двоеўладдзя не было, бо быццам «аніводны Савет, пачынаючы з Петраградскага, улады ў рукі не браў» [8, с. 85]. Па-першае, няма падстаў блытаць двоеўладдзе з поўнаўладдзем ці атаясамліваць абодва паняцці. Па-другое, паняцце «двоеўладдзе» ўпершыню выкарасталі не бальшавікі, а прадстаўнікі кадэтаў. Напрыклад, П. Мілюкоў так пракаменціраваў вынікі VIII з'езда Партыі Народнай свабоды: «Строгая згуртаванасць улады, з касаваннем усялякага двоеўладдзя і ўсялякіх спроб арганізацый канкурыраваць з законам і прызнаным краінай урадам» [6, с. 2]. Тагачасны пасол Вялікабрытаніі ў Расіі Д. Б'юкенен, які аналізаваў вынікі красавіцкага крызісу 1917 г., адзначаў: «Львоў, Керэнскі і Цярэшчанка былі перакананы, што адзіны сродак скасаваць двоеўладдзе — утварэнне кааліцыі» [5, с. 497]. Як слушна заўважыў беларускі даследчык П. Башко, «у перыяд мірнага развіцця рэвалюцыі, які характызаваўся наяўнасцю двоеўладдзя, Саветы самі з'яўляліся зародкамі рэвалюцыйнай улады, што валодалі сапраўднай магчымасцю сканцэнтрыраваць усю паўнату ўлады ў сваіх руках» [1, с. 219].

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі ў Беларусі, як і па ўсёй Расіі, склаліся пэўныя ўмовы для здзяйснення дэмакратычных рэформаў, што павінны былі садзейнічаць пазбаўленню краіны ад феадальных рэшткаў. Большая частка працоўных і салдат Заходняга фронту падтрымала партыі сацыялістычнай арыентацыі, аднак іх уяўленні пра сацыялізм былі рознымі.

2. Пасля перамогі Лютаўскай рэвалюцыі на палітычнай арэне Расіі і Беларусі вызначаліся тры лагеры: *праваліберальны, дэмакратычны і левы сацыялістычны*. Галоўнай партыяй праваліберальнага лагера стала партыя кадэтаў. Дэмакратычны лагер прадстаўлялі сацыялісты-рэвалюцыянеры, меншавікі і бундаўцы, якія ў галоўным прытрымліваліся сацыялістычных ідэй заходняга ўзору. Левы сацыялістычны лагер складалі бальшавікі, эсэры-максімалісты і анархісты. Фарміраванне трох лагераў адбылося на падставе поглядаў розных палітычных партый на галоўныя пытанні рэвалюцыі: праблемы ўлады і пабудовы новага грамадства, выхаду з вайны, вырашэнне аграрнага і нацыянальнага пытанняў.

Кадэты ў большасці выступалі за пабудову парламенцкай рэспублікі на заходні ўзор, супраць Саветаў, за працяг вайны, дапускалі пераход зямлі сельскагаспадарчага прызначэння ў рукі сялянства, але за выкуп, пры захаванні памешчыцкага землеўладання. Яны выступалі за «адзіную і недзялімую Расію» і адмаўлялі права народаў на самавызначэнне. Эсэры, меншавікі і бундаўцы, пры захаванні пэўных адрозненняў паміж сабой, разглядалі Лютаўскую рэвалюцыю як падставу дзеля здзяйснення рэформ сацыялістычнай накіраванасці. Саветам адводзілася тэрміновая роля кантролю за Часовым урадам. У пытаннях вайны і міру прадстаўнікі дэмакратычнага лагера займалі пазіцыю «рэвалюцыйнага абарончаства». Заклікалі сялян пачакаць з вырашэннем зямельнага пытання да Устаноўчага сходу. Нацыянальныя праблемы разлічвалі вырашыць з дапамогай федэралісцкіх ідэй.

Больш радыкальна да галоўных пытанняў рэвалюцыі ставіліся бальшавікі. Партыя прыняла стратэгічную ўстаноўку У. Леніна, каб буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя пераўтварылася ў сацыялістычную. Лозунг бальшавікоў «Уся ўлада Саветам!» цесна быў звязаны з іншым

лозунгам — «Аніякай падтрымкі Часовага ўрада». Калі б вясной 1917 г. ажыццявіўся лозунг «Уся ўлада Саветам!», то ў выніку адбылася б ізаляцыя ліберальных партый, разрыў блока эсэраў і меншавікоў з кадэтамі. Паколькі ў Саветах на той час пераважалі эсэры і меншавікі, то гэты лозунг фактычна ўяўляў бальшавіцкую прапанову кампрамісу партыям сацыялістычнай арыентацыі. Але партыя бальшавікоў пакідала за сабой права выкрываць непаслядоўную палітыку эсэраў і меншавікоў, іншых сацыялістаў у абароне інтарэсаў працоўных.

Нельга пагадзіцца з аўтарамі некаторых падручнікаў і дапаможнікаў, якія сцвярджаюць, што вясной 1917 г. У. Ленін, бальшавікі заклікалі «пераўтварыць імперыялістычную вайну ў вайну грамадзянскую». На самай справе гэты лозунг быў тады зняты. «Мы пакуль адмаўляемся ад гэтага лозунга, — казаў У. Ленін на VII Усерасійскай канферэнцыі бальшавікоў. — Зброя зараз у руках салдат, рабочых, а не ў капіталістаў. Пакуль урад не распачаў вайны, мы прапаведуем мірна» [10, с. 73].

Вырашэнне пытанняў аб вайне і міры, аграрнага, нацыянальнага разглядалася бальшавікамі ў залежнасці ад вырашэння галоўнага пытання — аб уладзе (не чакаючы Устаноўчага сходу). Эканамічная праграмма бальшавікоў была наступнай: канфіскацыя памешчыцкіх зямель і нацыяналізацыя ўсіх зямель; зліццё ўсіх банкаў у агульнанацыянальны і кантроль за ім з боку Саветаў; кантроль з боку Саветаў за грамадскай вытворчасцю і размеркаваннем прадуктаў. Пры гэтым бальшавікі падкрэслівалі, што прапануемыя імі захады — «не ўвядзенне сацыялізму», а мерапрыемствы, разлічаныя на тое, каб вывесці краіну з крызісу.

Агульнарасійскія партыі ў Беларусі і на Заходнім фронце мелі значны ўплыў. Пазіцыі мясцовых партыйных арганізацый не адрозніваліся ад пазіцый іх кіраўніцтва ў сталіцах.

3. Лютаўская рэвалюцыя садзейнічала ўздыму нацыянальна-вызваленчага руху, барацьбе за самавызначэнне беларускага народа. Сталі ўзнікаць беларускія грамадскія і культурна-асветніцкія гурткі і арганізацыі. Аднавіла сваю дзейнасць Беларуская сацыялістычная грамада, пачалі ўтварацца новыя беларускія партыі і іншыя аб'яднанні. Значную ролю для беларускага руху адыграў з'езд беларускіх нацыянальных арганізацый, што адбыўся 25—27 сакавіка ў Мінску. З'езд падтрымаў Часовы ўрад, а таксама выказаўся за аўтаномію Беларусі ў складзе Расійскай Федэратыўнай Рэспублікі. На з'ездзе было пастаўлена пытанне аб неабходнасці паступовага пераходу пачатковых школ на родную мову выкладання. З'езд сфарміраваў Беларускі Нацыянальны Камітэт (БНК) для выпрацоўкі ў кантакце з Часовым урадам асноў аўтаноміі Беларусі і падрыхтоўкі выбараў у Беларускую краёвую раду.

Сярод беларускіх партый у той час трэба вызначыць аднаўленую Беларускую сацыялістычную грамаду (БСГ), Беларускую народную грамаду (БНГ), Беларускую партыю народных сацыялістаў (БПНС) і Партыю беларускай хрысціянскай дэмакратыі (ПБХД). Усе чатыры партыі падтрымалі Часовы ўрад Расіі і выступалі за аўтаномію Беларусі ў складзе Расійскай Федэратыўнай Рэспублікі, развіццё беларускай мовы і культуры, а таксама падзялялі ідэі «рэвалюцыйнага абаронніцтва». Але погляды на вырашэнне сацыяльна-эканамічных праблем Беларусі былі рознымі. БСГ выказалася за агульнанародную ўласнасць на зямлю, хаця перасцерагала сялян ад неарганізаваных анархічных выступленняў. БНГ была блізкай да пазіцый БСГ, мела ўплыў сярод беларускіх бежанцаў. У аграрным пытанні БПНС не прадугледжвала неадкладнага пераходу ўсіх зямель у агульнанародную ўласнасць. Памешчыцкае землеўладанне фактычна захоўвалася, сялянскія землі заставаліся ў прыватнай уласнасці. ПБХД падтрымлівала многія праграмныя мэты БПНС, але галоўным зместам дзейнасці былі абвешчаны хрысціянскія каштоўнасці. Колькасць прыхільнікаў беларускіх партый не была значнай. Так, да сярэдзіны 1917 г. БСГ налічвала не больш 5 тыс. чалавек, БНГ — не больш 1 тыс. Іншыя беларускія партыі мелі яшчэ меншую колькасць сваіх сяброў.

4. Ва ўмовах двоеўладдзя палітычныя супярэчнасці абвастраліся. Партыі праваліберальнага і дэмакратычнага лагераў фактычна сталі кіруючымі, але аказаліся няздольнымі ажыццявіць палітыку, скіраваную на вырашэнне асноўных пытанняў рэвалюцыі. Аб гэтым свед-

чыў так званы «Красавіцкі крызіс», калі 18 красавіка міністр замежных спраў Расіі П. Мілюкоў заявіў саюзнікам, што Расія будзе весці вайну да пераможнага канца. Гэтая заява супярэчыла заявам Петраградскага Савета аб неабходнасці барацьбы за дэмакратычны мір без анексій і кантрыбуцый. Частка салдат Петраградскага гарнізона групы салдат Заходняга фронту і працоўных Беларусі выступіла з пратэстам супраць заявы П. Мілюкова. Разам з тым у гарадах Беларусі адбыліся дэманстрацыі ў падтрымку Часовага ўрада.

Каб спыніць уздым незадаволенасці, кіруючымі партыямі была вылучана і рэалізавана ідэя ўрадавай кааліцыі розных палітычных сіл: ад кадэтаў да народных сацыялістаў. Першы кааліцыйны ўрад быў сфарміраваны ў пачатку мая 1917 г. У яго склад увайшлі, акрамя кадэтаў, 7 прадстаўнікоў сацыялістычных партый. Фактычна ўсе мясцовыя арганізацыі ў Беларусі агульнарасійскіх і беларускіх партый, акрамя бальшавікоў, падтрымалі кааліцыйны ўрад. Абвастрылася барацьба па пытаннях вайны і міру. Каб узвысіць свой аўтарытэт, Часовы ўрад вырашыў правесці чэрвеньскае наступленне расійскай арміі на франтах. Эсэры, меншавікі гэтае рашэнне падтрымалі. Бальшавікі былі супраць, паколькі бачылі цяжкі стан войску, і выступалі за братэрства салдат на франтах. Наступленне правалілася, што выклікала новы выбух незадаволенасці ў грамадстве.

Вызначыліся напружанасці і ў міжнацыянальных адносінах. Яшчэ ў сярэдзіне красавіка 1917 г. Беларускі Нацыянальны Камітэт накіраваў для перамоў з Часовым урадам дэлегацыю на чале з Р. Скірмунтам, якая падала міністру-старшыні Часовага ўрада князю Г. Львову дакладную запіску з пераказам зместу рэзалюцый з’езда беларускіх нацыянальных арганізацый. Галоўнай была прапанова прадаставіць аўтаномію Беларусі. Аднак намаганні беларускай дэлегацыі не знайшлі станоўчага водгуку ва ўрадавых колах Расіі. БНК сутыкнуўся ўнутры Беларусі з сур’ёзнымі цяжкасцямі. Сялянства, якое было заклапочана пытаннем аб зямлі, не выказвала свядомага стаўлення да ідэі нацыянальнага самавызначэння. У той жа час ліберальнае кіраўніцтва БНК, нягледзячы на перавагу ў камітэце прыхільнікаў БСГ, не звязвала ажыццяўленне асноўных задач нацыянальнага руху з вырашэннем актуальных сацыяльна-эканамічных праблем. Беларускі рух раскалоўся на дзве плыні: ліберальную і рэвалюцыйна-дэмакратычную. Такім чынам, нерашучасць кіраваўшых тады партый, міжпартыйныя супярэчнасці, наяўнасць двоеўладдзя, урадавая чахарда садзейнічалі паглыбленню сацыяльна-эканамічнага і палітычнага крызісу, далейшаму размежаванню палітычных сіл.

5. Крызісныя з’явы, якія вызначаліся яшчэ да Лютаўскай рэвалюцыі, не зніклі ў Расіі і Беларусі і вясной — у пачатку лета 1917 г., набылі новую моц у ліпені — кастрычніку. Правал наступлення на франтах, супярэчнасці ў Часовым урадзе, адсутнасць неабходных рэформ прывялі да незадаволенасці мас, якая выявілася ў ліпеньскіх падзеях. Бальшавікі вырашылі надаць выступленням мірны характар. Дэтанатарам сацыяльнага выбуху сталі петраградскія анархісты, якія заклікалі звергнуць Часовы ўрад. 4 ліпеня ў Петраградзе адбылася дэманстрацыя рабочых і салдат. Па загаду ўрада яна была расстраляна (больш за 50 забітых і каля 660 параненых). Часовы ўрад абвінаваціў ва ўсіх гэтых падзеях бальшавікоў як «здраднікаў рэвалюцыі» [3, с. 262]. Цэнтральны Выканаўчы Камітэт (ЦВК) Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў (абраны I Усерасійскім з’ездам Саветаў у чэрвені 1917 г.) абвясціў Часовы ўрад «урадам выратавання рэвалюцыі», і яму былі нададзены неабмежаваныя паўнамоцтвы. Гэта сведчыла аб адмове ЦВК, які тады ўзначальвалі эсэры і меншавікі, ад так званага «кантролю» над уладай. Двоеўладдзе было скасавана, але на карысць Часовага ўрада і яго прыхільнікаў.

Эсэраўскія, меншавіцкія, бундаўскія арганізацыі Беларусі падтрымалі дзеянні Часовага ўрада. Правыя сілы на чале з губернскімі і павятовымі камісарамі спрабавалі нават распусціць Мінскі і іншыя Саветы рабочых і салдацкіх дэпутатаў, бальшавіцкія камітэты. Над дзейнасцю Саветаў сялянскіх дэпутатаў быў усталяваны кантроль павятовых органаў Часовага ўрада. Некалькі тысяч салдат і рабочых былі арыштаваны [4, с. 54—55]. Працягвалася размежаванне ўнутры беларускага руху, пра што сведчыў З’езд беларускіх нацыянальных

арганізацый і партый, які адбыўся 8—10 ліпеня. З'езд ухіліўся ад ацэнак ліпеньскіх падзей у Петраградзе, што выклікала незадаволенасць часткі дэлегатаў. Абмяркоўвалася дзейнасць БНК. Прадстаўнікі БПНС выказаліся супраць скасавання БНК. У выніку канфлікту з БСГ яны пакінулі з'езд. Замест БНК быў абраны Выканаўчы камітэт Цэнтральнай рады беларускіх арганізацый, да якой перайшло кіраўніцтва беларускім нацыянальным рухам.

Праваліберальныя сілы паспрабавалі ўстанавіць ваенную дыктатуру. Кандыдатам у дыктатары быў вызначаны генерал Л. Карнілаў. Але на барацьбу з карнілаўшчынай узняліся не толькі бальшавіцкія структуры, але і частка эсэра-меншавіцкіх. Мяцеж быў ліквідаваны, аўтарытэт бальшавікоў узрос, а ўплыў лідараў эсэраў і меншавікоў знізіўся. Манеўры кадэтаў, эсэраў і меншавікоў станоўчых вынікаў не прынеслі. Восенню 1917 г. усю краіну ахапіў сацыяльна-эканамічны і палітычны крызіс. За 9 месяцаў 1917 г. аб'ём прамысловай вытворчасці ў Расіі скараціўся на 36,5 %. Не хапала самых неабходных тавараў: мыла, запалак, керасіну, солі. Цэны на спажывецкія тавары хутка раслі. На Беларусі стан гаспадаркі быў яшчэ больш катастрафічным. Многія заводы амаль спынілі вытворчасць. Працавалі толькі тыя прадпрыемствы, якія былі звязаны з ваеннымі заказамі. У Віцебскай і Магілёўскай губернях у пачатку кастрычніка 1917 г. валавая прадукцыя цэнзавай прамысловасці склала 54,4 % у параўнанні з 1913 г. За гэты час прадукцыя сельскай гаспадаркі паменьшылася амаль што на 40 %, больш за палову скарацілася пагалоўе жывёлы. Мінскі гарадскі харчовы камітэт у пачатку жніўня 1917 г. паведамляў, што на гарадскіх складах няма запасаў мукі і нават надзеі на яе атрыманне [4, с. 57]. Віцебскі губернскі харчовы камітэт звярнуўся ў міністэрства з прашэннем «падтрымаць забеспячэнне губерні з раёнаў вытворчасці» [2, с. 767]. Аднак Петраград быў не ў стане дапамагчы беларускім губерням. З мэтай скарачэння спажывання мяса ў Мінску ў аўторак, сераду, чацвер і пятніцу кожнага тыдня быў забаронены продаж мяса і мясных вырабаў. На гэтым нажываліся спекулянты, якія ўзнімалі яшчэ вышэй галапіруючыя цэны. У кастрычніку 1917 г. у Мінску выдавалі на чалавека па тры фунта хлеба на два тыдні [9, с. 223]. Асабліва дрэнна было ў павятовых гарадах Беларусі. Насельніцтва г. Дрысы, напрыклад, натоўпамі збіралася каля харчовай павятовай управы, патрабуючы харчу. Дрысенскі харчовы камітэт паведамляў, што ў павеце пачаліся рабаванні і калі не будзе забяспечана дастаўка харчавання, то «узнікнуць бунты на падставе голаду» [4, с. 57].

Беспадстаўнымі выглядаюць сцвярджэнні, што «адразу пасля Лютаўскай рэвалюцыі харчовыя цяжкасці былі пераадолены», што да свяржэння самаўладдзя ў Магілёве назіраўся толькі «каўбасны голад», а ў Мінску дума, «каб не раздражаць бедныя пласты насельніцтва, пастанавіла забараніць выраб піражных і канфет» [11, с. 110]. Паведамленні «жоўта-бульварнай» прэсы 1917 г. некаторымі даследчыкамі ўзводзяцца ў якасць каштоўных крыніц.

Крызіс ахапіў праўрадавыя партыі. Яны разваліваліся. Сярод эсэраў і меншавікоў узмацніліся левыя плыні. Адбылося размежаванне і ў беларускім руху. У верасні 1917 г. частка левага крыла БСГ вылучылася і ўтварыла арганізацыю бальшавіцкага напрамку — Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю на чале з А. Чарвяковым. Правацэнтрысцкія лідары БСГ у кастрычніку правялі III з'езд, на якім была зацверджана новая праграма, менш радыкальная па сацыяльна-эканамічных пытаннях у параўнанні з былымі праграмнымі палажэннямі. З'езд па-ранейшаму падтрымліваў Часовы ўрад [7, с. 12—16].

У Беларусі набіраў рух за скліканне II Усерасійскага з'езда Саветаў. Разам з тым у праваліберальным лагеры вызначалася тэндэнцыя падрыхтоўкі другой карнілаўшчыны. У гэтых умовах бальшавікі распачалі падрыхтоўку ўзброенага паўстання. 25 кастрычніка 1917 г. паўстанне ў Петраградзе перамагло. II з'езд Саветаў адкрыўся ўвечары 25 кастрычніка, і, па ўдакладненым сведчанням, з 649 дэлегатаў з'езда 63 прадстаўлялі Беларусь і Заходні фронт (з іх 34 бальшавікі, 7 левых эсэраў, 3 меншавікі-інтэрнацыяналісты, 5 меншавікоў, 9 правых эсэраў, 2 эсэры цэнтра, бундаўцаў — 1,3 прадстаўнікі Паалей-Цыён, адзін дэлегат невызначанай партыйнасці, адзін дэлегат беспартыйны [1, с. 213].

Такім чынам, Кастрычніцкая рэвалюцыя як у Расіі, так і ў Беларусі мела заканамерны характар. Яна ўвасабляла спробу працоўнага народа вырвацца з ланцугу палітычных і сацыяльна-эканамічных супярэчнасцяў, якія былі абумоўлены тагачасным узроўнем рынкавых адносін, а таксама праблемамі, што выклікала Першая сусветная вайна.

## ЛІТАРАТУРА

1. *Башко, П. К.* Советы рабочих, солдатских и крестьянских депутатов Белоруссии (март — октябрь 1917 г.) / П. К. Башко. Минск : Навука і тэхніка, 1987. 254 с.

2. Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии. Документы и материалы: в 2 т. Т. 1. Белоруссия в период подготовки социалистической революции (февраль — октябрь 1917 г.). Минск : Государственное издательство БССР, 1957. 1068 с.

3. История России XX — начала XXI века / А. С. Барсенков, А. И. Вдовин, С. В. Воронкова; под ред. Л. В. Милова. М. : Эксмо, 2010. 910 с.

4. *Казлякоў, У. Я.* Палітычныя партыі Беларусі (пачатак XX ст. — 20-я гады) / У. Я. Казлякоў. Мінск : БДТУ, 2000. 99 с.

*5. Милюков, П. Н.* Воспоминания / П. Н. Милюков. М. : Политиздат, 1991. 528 с.

*6. Милюков, П. Н.* Итоги VIII съезда партии Народной свободы / П. Н. Милюков // Вестник партии Народной свободы. 1917. 18 мая. С. 2—4.

7. Октябрь 1917 и судьбы политической оппозиции: в 3 ч. Ч. II. У истоков политического противостояния. Материалы и документы по истории общественных движений и политических партий Республики Беларусь / под ред. Энтина Э. М. Гомель : Белорусское агентство научно-технической и деловой информации, 1993. 228 с.

8. *Петриков, П. Т.* Очерки новейшей историографии Беларуси (1990-е — начало 2000-х годов) / П. Т. Петриков. Минск : Беларуская навука, 2007. 228 с.

9. Победа Советской власти в Белоруссии / ред. кол. И. И. Минц, Н. В. Каменская, И. С. Кравченко. Минск : Навука і тэхніка, 1967. 508 с.

10. Седьмая (Апрельская) Всероссийская конференция РСДРП (большевиков). Протоколы. М. : Политиздат, 1958. 434 с.

11. *Сяменчык, М. Я.* Расійская армія і жыхары Беларусі на зломе Першай сусветнай вайны / М. Я. Сяменчык // Труды Белорускаго государственного технологического университета. Серия V. Политология, философия, история, филология. Вып. XVII. Минск : БГТУ, 2009. С. 110—113.

12. *Шыбека, З.* Нарыс гісторыі Беларусі (1795—2002 г.) / З. Шыбека. Мінск : Энцыклапедыкс, 2003. 490 с.

## РЕЗЮМЕ

Рассматриваются некоторые актуальные вопросы, связанные с освещением в учебном курсе «История Беларуси» ситуации накануне Октябрьской революции. Анализируется расстановка политических сил в Беларуси после Февральской революции, характеризуются позиции местных организаций общероссийских и белорусских политических партий, раскрывается содержание реально существовавшего двоевластия в марте — июне 1917 г. Показано нарастание политического и экономического кризиса в России и Беларуси, делается вывод о закономерности Октябрьской революции.

## SUMMARY

In article are considered some pressing questions connected with illumination in a training course «History of Belarus» situations on the eve of October revolution. The author analyzes arrangement of political forces in Belarus after February revolution, characterizes positions of the local organizations of the russian and belarussian political parties, opens the maintenance of really existing diarchy in March – June 1917 ǎ. Increase political and an economic crisis both in Russia and in Belarus. The author draw conclusion about law of October revolution.

Статья поступила в редакцию 17 сентября 2011 г.